*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2019, № 7(41). Ліпень

## Помнік-танк у Слоніме ў 1969 годзе

У фондах Беларускага дзяржаўнага архіву кінафотафонадакументаў знайшоўся гэты цікавы фотаздымак, зроблены ў ліпені 1969 года. На ім бачым помнік-танк і хлапчукоў каля яго. Помнік Вызваліцелям быў усталяваны ў скверы на Першамайскай вуліцы якраз у тым годзе. Таму не дзіўна, што на яго прыходзілі паглядзець дзеці. З таго часу прайшло паўстагоддзя. Танк Т-34 на пастаменце нагадвае слонімцам пра вызваленне горада ад акупантаў, якое адбылося 10 ліпеня 1944 года.

●Сяргей Ёрш

ХРОНІКА

## “Белпошта” выпусціла марку, прысвечаную Слоніму




РУП “Белпошта” выпусціла паштовую марку, прысвечаную Слоніму. На марцы адлюстраваны помнік-герб нашага горада, які знаходзіцца каля Слонімскага райвыканкама, касцёл святога Андрэя, Свята-Троіцкі сабор і драмтэатр.

Выданне паштовай слонімскай маркі прымеркавана да рэспубліканскага свята беларускага пісьменства і друку, якое адбудзецца праз два месяцы — 1 верасня.

●СЧ

## Партрэт Сталіна на парадзе

Слонім зноў трапіў пад увагу цэнтральных СМІ — падчас святкавання 3 ліпеня на аўтамабілі правезлі партрэт Сталіна. Відаць, забыліся, што ён не толькі “выйграў вайну”, але і адказны за масавыя рэпрэсіі ў СССР.




## “Погляд у мінулае”




Да 18 ліпеня ў выставачнай зале Слонімскага раённага краязнаўчага музею імя Стаброўскага па Ружанскай вуліцы праходзіць выстава гадзіннікаў “Погляд у мінулае”. Калекцыю сабраў слонімец Генадзь Шлыковіч. У ёй каля 200 гадзіннікаў, у тым ліку больш за сотню адносяцца да сярэдзіны XIX стагоддзя.

●ГГ

Усе нумары гісторыка-краязнаўчага месячніка “Слонімскі край”, якія выйшлі на працягу 2016-2019 гадоў, можна знайсці на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат”: http://kamunikat.org/

# Зноў пра пажарную каланчу ў Слоніме

У мінулым нумары “СК” мы пісалі пра два будынкі на вуліцы Пушкіна — пра адміністрацыйны будынак “Вежа”, які цяпер прадаецца, і пра былую пажарную каланчу.* Каланча была ўзведзена ў пачатку XX стагоддзя. У той час яна выглядала інакш, самае галоўнае — на ёй была вежа. Яна відаць на здымках, зробленых падчас нямецкай акупацыі ў гады Першай сусветнай вайны. Намі былі знойдзены публікацыі 1929 года пра рэалізаваны ў тым годзе праект пабудовы новай пажарнай вежы. Наша версія пра пабудову новай вежы не на каланчы, на месцы старой, а побач з будынкам, была памылковая. Адзін з чытачоў слушна заўважыў, што цяперашні чатырохпавярховы адміністрацыйны будынак “Вежа” ніколі не быў пажарнай вежай, а быў вежай воданапорнай. Больш таго, раней быў двухпавярховым.

На жаль, старажылы, з якімі ўдалося пагаварыць, не змаглі нам дапамагчы. Але ўдалося знайсці некалькі здымкаў, якія мы ўпусцілі падчас падрыхтоўкі папярэднага артыкула. На сайце nac.gov.pl ёсць два зімовыя здымкі Слоніма фатографа Дзерачынскага. Яны маюць паслядоўную сігнатуру — гэта значыць, былі зроблены ў адзін час. На жаль, дата пазначана толькі прыблізна: 1918 — 1939. Першы здымак відавочна зроблены з пажарнай вежы. У мінулым нумары мы змяшчалі фота гэтага ж раёна, зробленае адтуль жа, толькі падчас Першай сусветнай вайны ці напярэдадні яе.** Як бачым, на месцы драўлянага дома на рагу вуліц пабудаваны ўжо цагляны будынак. Гэта значыць, што фота міжваеннага часу.







*Злева — каланча з вежай. Фота Дзерачынскага. Праўдападобна, пачатак 1930-х гадоў / nac.gov.pl*

У фотабазе ёсць і іншыя слонімскія здымкі Дзерачынскага, яны пазначаныя пачаткам 1930-х гадоў. Верагодна, прыблізна ў гэты час зроблены

*Працяг на ст.4*

# Зноў пра пажарную каланчу ў Слоніме



*Працяг, пачатак на ст.3*

і іншыя здымкі фатографа. Чаму мы так лічым? Паглядзім наступнае фота — панараму Слоніма. Злева на ім бачым пажарную каланчу з вежай. І гэтая вежа не падобная на тую, якую бачылі на фота часоў Першай сусветнай вайны. Значыць, усё ж у 1929-м адбылася рэканструкцыя будынка каланчы і менавіта на ім, замест старой, пабудавалі новую вежу. Справа ад каланчы на фота бачым высокі будынак (але ніжэйшы за пажарную вежу). Ён знаходзіцца прыблізна ў тым месцы, дзе цяпер стаіць былая воданапорная вежа (частку даху гэтага будынку бачым на першым здымку). На фота часоў Першай сусветнай вайны яго не відаць. Значыць, воданапорную вежу пабудавалі польскія ўлады (на жаль, дакладную дату мы пакуль не ведаем).

На знойдзеным намі здымку лета-восені 1942 года бачым вайскоўцаў Беларускай самаахововы, якія праводзяць заняткі ў руінах знішчаных дамоў на цяперашняй вуліцы Пушкіна. На заднім плане справа — светлы будынак пажарнай каланчы. На жаль, не відаць вежы на ім. Справа ад каланчы бачым частку нейкага збудавання, магчыма, якраз той самай воданапорнай вежы.

Падвядзем вынікі. Першае — "Вежа" па вуліцы Пушкіна,6, якая выстаўлена на аўкцыён, да пажарнай каланчы не мае ніякага дачынення. Версіі, што ёй 90 ці 103 гады, нічым не пацверджаныя. Другое — пажарная каланча знаходзілася ў адным і тым жа будынку і падчас царскіх уладаў, і нямецкіх, і польскіх. Цяпер гэта вуліца Пушкіна, 4. У 1929 годзе адбылася рэканструкцыя будынка і была пабудаваная новая пажарная вежа. У далейшым ён зноў быў моцна перабудаваны (у які годзе, яшчэ высветлім), і прыгожая вежа знікла.

Такім чынам будынак, з якога ў міжваенны час гучаў паланэз Агінскага, захаваўся. І гэта не "Вежа", з якой ён гучыць цяпер, а былая каланча, якая знаходзіцца побач. Пра тое, калі ў міжваенны час загучаў паланэз і з якімі праблемамі сутыкнуліся слонімскія пажарныя, распавядзем у наступнай публікацыі.

●Сяргей Ёрш

**Ёрш С. Пра пажарную вежу ў Слоніме // Слонімскі край, 2019, № 6. Чэрвень. С. 3-4.*

***Ёрш С. Напалеон Банапарт і Слонім // Слонімскі край, 2019, № 6. Чэрвень. С. 5.*

# Слонім у 1947 годзе



*Брама каля касцёла і кляштара на Першамайскай вуліцы. Побач з ёй разбураныя дамы, якія не аднавілі і праз два гады пасля вайны*

У фондах Беларускага дзяржаўнага архіву кінафотафонадакументаў захоўваюцца некалькі здымкаў, зробленых у Слоніме ў 1947 годзе. Змяшчаем іх на старонках нашага выдання. Гэта працяг публікацыі ў папярэднім нумары, прысвечанай нашаму гораду ў 1946-м. Як бачым, у цэнтры Слоніма яшчэ былі руіны.

●Сяргей Ёрш

# Слонім у 1947 годзе

*Брама каля былога кляштара бернардзінак на Першамайскай вуліцы*



*Спаса-Праабражэнскі сабор стаяў без даху. Улады яшчэ не вырашылі яго лёс*

Галоўны ўваход у Спаса-Праабражэнскі сабор



На здымку галоўнага ўваходу ў Спаса-Праабражэнскі сабор злева бачым руіны разбуранага двухпавярховага будынку на Замкавай вуліцы

Здымак на папярэдняй старонцы з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіву кінафотафонадакументаў быў зроблены 17 ліпеня 1959 года. У архіўныя зборы ён паступіў з Беларускага тэлеграфнага агенцтва, аўтарам пазначаны А. Пераход. У анатацыі пазначана: дырэктар Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя Баграціёна Г. Пех і навуковыя супрацоўнікі Слонімскага музея І. Шпыркова і В. Сімакова сістэматызуюць знойдзеныя экспанаты падчас раскопак замчышча каля г. Слоніма (насамрэч — у Слоніме). Георгій Пех напісаў справаздачу пра раскопкі 1959-га на "Замчышчы" па Опернай вуліцы.* У ёй ён піша, чаму яго ўвагу прыцягнуў гэты раён Слоніма. У 1946 годзе Пех знайшоў там у акопе частку шклянога бранзалета і фрагменты старажытнай керамікі. Ён спасылаецца на неназваныя "польскія хронікі", якія сведчаць пра пабудаваны на ўзвышшы ў 1520 годзе ўмацаваны замак.

У 1959 годзе быў закладзены раскоп памерам 64 квадратныя метры. Аднак, калі высветлілася, што на "Замчышчы" магутнасць культурнага слою дасягае пяці метраў, раскоп скарацілі на 16 кв. м. Што было знойдзена? Рэшткі жылых і гаспадарчых пабудоў, майстэрняў рамеснікаў (з сасны і дубу), насцілы маставых вуліц (з бярозы, асіны і г. д.), прадметы гаспадарчай дзейнасці гараджан, імпартныя рэчы, якія сведчаць пра гандлёвыя сувязі Слоніма. Георгій Пех зрабіў выснову, што "нягледзячы на тое, што раскопкамі ўскрыта нязначная плошча, у Слоніме выяўлены матэрыялы, якія ўяўляюць вялікую навуковую каштоўнасць". "Можна сцвярджаць, што ў XII стагоддзі Слонім быў адным з заможных і квітнеючых гарадоў Панямоння, — піша археолаг. — Відаць, узнік ён на месцы пасялення, якое існавала ў XI стагоддзі, а можа быць і некалькі раней".


*Раскопкі ў Слоніме, 1959 г.*

Дзіўна, але Пех ніяк не пракаментаваў адсутнасць сярод знаходак зброі і вайсковага рыштунку (калі не лічыць цацак для дзяцей у выглядзе зброі, з жалезных вырабаў — нажоў, нажніц і падобнага). Не было выяўлена і ўмацаванняў замку. Паводле Георгія Пеха, насельніцтва Слоніма ў старажытнасці займалася рамесніцтвам, ткацтвам, сельскай гаспадаркай, паляваннем і рыбнай лоўляй.

Краязнаўца і археолаг Васіль Супрун прысутнічаў на раскопках 1959 года і рабіў запісы. Ён адзначыў, што "не ўдалося выявіць ні адзінай дэталі вайсковага рыштунку ці старажытнай зброі, характэрных былым гарадскім цытадэлям".** Супрун лічыў, што ў старажытнасці на месцы цяперашняга Слоніма ўтварыліся два гарадзішчы — на Замосці і на ўзвышшы, дзе праводзіліся раскопкі. Замак з часам паўстаў менавіта за Шчарай, і там некалькі стагоддзяў быў цэнтр горада. Таму не дзіўна, лічыў Васіль Супрун, што на "Замчышчы" каля Опернай вуліцы Георгій Пех не знайшоў ніякай зброі — у старажытнасці там не было ваяроў. Замак жа ў гэтым месцы пабудавалі толькі ў XVI стагоддзі. А вось "Замчышча" на Замосці было знішчана падчас пабудовы чыгункі ў канцы XIX стагоддзя. Такая версія мае нямала прыхільнікаў.




Знаходкі з археалагічных раскопак 1959 года захоўваюцца ў Слонімскім раённым краязнаўчым музеі імя Язэпа Стаброўскага.

●Сяргей Ёрш

**Пех Г. Раскопки древнего Слонима // Древности Белоруссии. — Минск, 1966. С. 276-279.*

***Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 33.*

# Пра слонімскі гандаль у 1920-я гады

*Працяг, пачатак у № 5-6, 2019 г.*

“Ejdla Borecka”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Уланская (цяпер — Савецкая), 5. Уласніца — Эйдля Барэцка. Жыла там жа.

“Henia Botwińska”. Гандаль шавецкімі прыладамі. Год заснавання — 1910. Слонім, вуліца Сянкевіча (цяпер — Першамайская), 19. Уласніца — Гэня Батвінская. Жыла там жа.

“Chana Bielska”. Кавярня-кандытарская. Год заснавання — 1922. Слонім, Гандлёвая плошча, будка № 5. Уласніца — Хана Бельская. Жыла па вуліцы Касцюшкі (цяпер — Маякоўскага), 13.

“Hirsz Brański”. Гандаль мануфактурай. Год заснавання — 1924. Слонім, вуліца Сянкевіча, 27. Уласнік — Гірш Бранскі. Жыў у Бранску Бельскага павету.

“Fania Boryszańska”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1922. Слонім, вуліца 3 Мая (цяпер — Чырвонаармейская), 103. Уласніца — Фаня Барышанская. Жыла там жа.

“Niszka Bernsztejn”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Школьны Двор (цяпер — Савецкая), 5. Уласнік — Нішка Бернштэйн. Жыў там жа.

“Kunia Epsztejn”. Кавярня. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвая плошча, будка № 7. Уласніца — Куня Эпштэйн. Жыла па Рыбацкай вуліцы, 11.

“Chaim Ferder”. Гандаль скурамі. Год заснавання — 1922. Слонім, Рынкавая вуліца, 1. Уласнік — Хаім Фэрдэр. Жыў там жа.

“Sara Giszkin”. Гандаль посудам. Год заснавання — 1924. Слонім, Гандлёвыя рады, № 52 (цяпер на гэтым месцы сквер па Першамайскай вуліцы). Уласніца — Сара Гішкін. Жыла па Міхайлаўскай вуліцы, 5.




“Hirsz Jeziernicki”. Гандаль абуткам. Год заснавання — 1926. Слонім, Гандлёвыя рады, № 69. Уласнік — Гірш Езерніцкі (Азярніцкі). Жыў па Школьнай вуліцы, 15.

“Izaak Goszkowicz”. Гандаль збожжам. Год заснавання — 1922. Слонім, Ружанская вуліца, 70. Уласнік — Ісаак Гашковіч. Жыў там жа.

“Szmerko Jakimowski”. Гандаль прадуктамі харчавання і тытунёвымі вырабамі. Год заснавання — 1926. Дзераўная. Уласнік — Шмэрка Якімаўскі. Жыў там жа.

“Ester Jakimowska”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1926. Альбярцін. Уласніца — Эстэр Якімаўская. Жыла там жа.

“Szmuel Krupienia”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Слонім, Ружанская вуліца, 10. Уласнік — Шмуэль Крупеня. Жыў па Берагавой вуліцы, 5.

“Reweka Kozłowska”. Гандаль галантарэйнымі таварамі і кавалкамі скур. Год заснавання — 1926. Слонім, вуліца Сянкевіча, Гандлёвыя рады, 73а. Уласніца — Рэвека Казлоўская. Жыла па Параднай вуліцы (цяпер — Першамайская, яе ніжняя частка), 14.




“Chaja Kwiat”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Слонім, Віленская вуліца, 19. Уласніца — Хая Квят. Жыла там жа.

“Basia Kerbel”. Гандаль рэшткамі мануфактурных тавараў. Год заснавання — 1926. Слонім, вуліца 3 Мая, 28. Уласніца — Бася Кэрбель. Жыла там жа.

“Konstanty-Mieczysław Kościuk”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1923. Слонім, вуліца 3 Мая, 66. Уласнік — Канстанцін-Мечыслаў Касцюк. Жыў там жа.

“Rejzla Kaufman”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1922. Слонім, Гандлёвая плошча, 11. Уласніца — Рэйзла Каўфман. Жыла там жа.

“Abram-Lejba Krupienia”. Гандаль збожжам. Год заснавання — 1923. Слонім, вуліца 3 Мая, 46. Уласнік — Абрам-Лейба Крупеня. Жыў там жа.

“Szejna Kowieńska”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1926. Дзераўная. Уласніца — Шэйна Ковенская. Жыла там жа.

“Itka Lidowska”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Вёска Гавенавічы Шылавіцкай гміны Слонімскага пав. (цяпер — вёска Падгорная Баранавіцкага раёна). Уласніца — Ітка Лідоўская. Жыла там жа.

“Abram Lidowski”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1923. Слонім, вуліца Школьны Двор, 5. Уласнік — Абрам Лідоўскі. Жыў там жа.

КНІГІ ПРА СЛОНІМ

# "Горад над Шчарай і яго ваколіцы"




Два гады таму мінскае унітарнае прадпрыемства "Рыфтур" выпусціла прыгожае каляровае выданне на 48 старонках, прысвечанае Слоніму. Кніжка пабачыла свет на рускай мове на замову Слонімскага райвыканкама накладам 1200 асобнікаў.

Выданне *"Город над Щарой и его окрестности"* рыхтаваў вядомы фотамайстар Сяргей Плыткевіч. Выданне надрукавана на крэйдавай паперы і ілюстравана вельмі прыгожымі фотаздымкамі сучаснага Слоніма. Ёсць у кнізе і старыя фотаздымкі, але яны даўно ўсім вядомыя і іх лёгка знайсці ў інтэрнэце.

У кнізе коратка адлюстравана гісторыя Слоніма. Згадваюцца ў ёй і Жыровічы, Новадзявяткавічы, Вострава, Азярніца, Пасінічы, Кракотка, Клепачы, Збочна, Міжэвічы і Шылавічы. У выданні шмат недакладнасцяў і розных апісак. Напрыклад, паведамляецца, што ў Слонімскім тэатры глядзельная зала разлічана на 220 месц, а на самой справе іх 196. Ёсць недакладнасці ў апісанні гістарычных фактаў, вёсак і асобных храмаў.

У кнізе надрукавана кароткая гістарычная храналогія і карысная інфармацыя для турыстаў.

●Сяргей Чыгрын

# Пра слонімскі гандаль у 1920-я гады

*Працяг, пачатак на ст. 10*

"Władysław Lenartowicz". Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1926. Слонім, вуліца Мінская (цяпер — Савецкая), 46. Уласнік — Уладзіслаў Ленартовіч. Жыў там жа.

"Rywka Miedźwiedzka". Кавярня і піўная. Год заснавання — 1892. Слонім, вуліца Мінская, 29. Уласніца — Рыўка Мядзьвецкая. Жыла там жа.

"Bazyl Markiewicz". Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Вёска Мыслава Міжэвіцкай гміны. Уласнік — Васіль Маркевіч. Жыў там жа.

"Jacha Świeticka". Кавярня. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвая плошча, будка № 40. Уласніца — Яха Сваціцкая. Жыла па вуліцы 3 Мая. 71.

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш

СТРАТА

# Не стала слонімскага артыста Віктара Шчарбакова

У пятніцу, 28 чэрвеня, на 91-м годзе жыцця памёр былы слонімскі артыст Віктар Міхайлавіч Шчарбакоў.

Віктар Шчарбакоў нарадзіўся ў Маскве 16 лістапада 1928 года. У раннім узросце пераехаў жыць у горад Стрэльна Ленінградскай вобласці. Шчарбакоў вучыўся ў культпрасветвучылішчы, пасля працаваў на Поўначы на заводзе электразваршчыкам.

У Слонім Віктар Міхайлавіч прыехаў у 1959 годзе. Быў загадчыкам сельскага клуба. У кінатэатры "Мір" працаваў спачатку слесарам-электрыкам, потым адміністратарам і, нарэшце, дырэктарам.

Віктар Міхайлавіч любіў тэатр. Спачатку ён наведваў Слонімскі народны тэатр, потым рэжысёр Мікалай Варвашэвіч паклікаў яго ў Слонімскі эксперыментальны тэатр-студыю, скуль шлях прывёў артыста і ў наш дзяржаўны драматычны тэатр.

На слонімскай сцэне Віктар Шчарбакоў сыграў дзесяткі самых разнастайных роляў. Аматары тэатральнага мастацтва памятаюць спектаклі з яго ўдзелам. А гэта — "Жалезная заслона", "На бойкім месцы", "Каханне з падманам", "Жарты Парыжа", "Ход канём", "Зайка-зазнайка", "Драўляны рыцар" і многія іншыя.

"Слонімскі край" шчыра спачувае ўсім родным і блізкім у сувязі са смерцю цудоўнага артыста і чалавека Віктара Міхайлавіча Шчарбакова.

*На здымках: сцэны са спектакляў з удзелам Віктара Шчарбакова.*





*Сцэна са спектакля "Жалезная заслона", 1989 г.*



Сцэна са спектакля "Жалезная заслона", 1989 г.



Сцэна са спектакля "Жарты Парыжа", 1995 г.

# Гукавое кіно




Першы кінатэатр у Слоніме з'явіўся яшчэ напярэдадні Першай сусветнай вайны. Гэта быў нямы кінематограф: на кадрах — тытры, а ў якасці гукавога суправаджэння выкарыстоўвалася жывая музыка ў кіназале (да яе нярэдка былі прэтэнзіі). Так слонімцы глядзелі кіно да восені 1930 года.

Гукавое кіно дасягнула камерцыйнага поспеху ў канцы 1920-х. У Слонім яно прыйшло ў пачатку кастрычніка 1930-га. У першыя дні быў вялікі ажыятаж — аматары кіно, якія дагэтуль ведалі пра навінку толькі з газет, цяпер цалкам запаўнялі залу "Мадэрна" на вуліцы Сянкевіча (цяпер — Першамайская). І яны не асабліва звярталі ўвагу на не самую лепшую акустыку і на незразумелую англійскую мову. Мясцовая газета пісала, што з'яўленне гукавога кіно — гэта *"сведчанне еўрапеізацыі Слоніма"*…

У канцы кастрычніка 1930 года ў Слонім нарэшце прывезлі польска-амерыканскі гукавы фільм. Гэта была "Таямніца лекара" рэжысёра Рышарда Ардынскага.

●Генадзь Гурскі

# Супрацьтанкавы роў у Рышчыцах, 1944 год



РАССЕКРЕЧЕНО

Секретно.

Экз.№.15..

БЕЛОРУССКИЙ ШТАБ ПАРТИЗАНСКОГО ДВИЖЕНИЯ.

РАЗВЕДСВОДКА № 47(164)

«31» мая 1944 г. Карта 200.000



"СК" ужо згадваў пра праект Нацыянальнага архіву РБ, які на сваім сайце змяшчае раней сакрэтныя разведвальныя зводкі Беларускага [савецкага] штабу партызанскага руху за студзень-ліпень 1944 года.[1] Такія дакументы атрымлівала кіраўніцтва кампартыі Беларусі, рэспубліканскай дзяржбяспекі і органаў унутраных спраў. Яны дасылаліся ў разведвальныя структуры Чырвонай Арміі. У зводках згадваюцца Слонім і Слонімшчына. Прапануем увазе чытачоў падборку вытрымак з гэтых дакументаў.

№ 6(123) ад 21 студзеня 1944 года.

Па дадзеных агента "Селезень" ад 22.10.43, у Слонімскім раёне існуе польская фашысцкая арганізацыя "Польская баявая падпольная арганізацыя", якая налічвае 2000 добра ўзброеных чалавек. Мэта арганізацыі — барацьба супраць партызанаў і супраць савецкага актыву.[2]

№ 7(124) ад 24 студзеня 1944 г.

Па дадзеных камандавання брыгады ім[я] т. Панамарэнкі на 20.12.43 г. гарнізоны праціўніка маюцца ў наступных населеных пунктах:

…г. Слонім — 300 немцаў, 150 паліцэйскіх і адзін батальён "Беларускай арміі" — 460 чал[авек].

в. Сасноўка (28 км [на] п[аўднёвы]-з[ахад ад] Слонім[а]) — 7 немцаў і 80 паліцэйскіх.

в. Міжэвічы (20 км [на] п[аўднёвы]-з[ахад ад] Слонім[а]) — 30 немцаў і 90 паліцэйскіх.

ст. і м. Азярніца (21 км [на] зах[ад ад] Слонім[а]) — 170 немцаў, 25 украінцаў.

в. Жыровічы (9 км [на] п[оўдзень ад] Слонім[а]) — 11 немцаў, 70 паліцэйскіх.

Савічы (вапнава-цагляны завод, 13 км [на] п[аўднёвы]-з[ахад ад] Слонім[а]) — 1 немец і 60 паліцэйскіх.

м[аёнтак] Грыбава (3 км [на] зах[ад ад] Слонім[а]) — 120 немцаў.

№ 18(135) ад 8 сакавіка 1944 г.

Па агентурных дадзеных, 115 украінскі паліцэйскі батальён, які дыслакуецца ў Слоніме, у верасні-кастрычніку [19]43 г. перайменаваны ў 62 б[атальё]н. Гэта нібыта звязана з тым, што ў цяперашні час б[атальё]н дзейнічае ў Беларусі, дзе б[атальё]ны маюць свае парадкавыя нумары ад 40 да 100, на Украіне ад 100 да 150, а ў Прыбалтыйскіх рэспубліках ад 1 да 40.

№ 21(138) ад 17 сакавіка 1944 г.

Рух па чыгунцы Ваўкавыск — Слонім 21 і 29.2 затрымліваўся на 15 гадзін з-за крушэнняў, зробленых партызанамі.

№ 31(148) ад 15 красавіка 1944 г.

1.3. у раён Слонім[а] прыбыло з Усходу да 3000 здраднікаў і паліцэйскіх, якія ў гэтым раёне спальвалі населеныя пункты, рабавалі і зганялі насельніцтва.

№ 36(153) ад 26 красавіка 1944 г.

Па р. Шчара на ўчастку Слонім — Быцень /44-42 км [на] зах[ад] і п[аўднёвы]- з[ахад] ад] Баранавічаў/ праціўнікам капаюцца акопы і траншэі.

№ 41(158) ад 13 траўня 1944 г.

На 1.5. на ўчастках Баранавічы — Новая Мыш /6 км [на] зах[ад ад] Баранавічаў/, Слонім — Дзераўная /15 км [на] поўн[ач ад] Слонім[а]/ будуюцца ўмацаванні — акопы, дзоты.

№ 49(166) ад 8 чэрвеня 1944 г.

На 27.4. у Слонім знаходзіліся: 48 батальён "БКА", 48 батальён службы бяспекі, 62 батальён паліцыі аховы, 13 батальён "СС", па нацыянальнасці ўсе гэтыя часткі складаюцца ў асноўным з украінцаў.[3]

№ 50(167) ад 10 чэрвеня 1944 г. На 15.4. ад Рышчыц[4] /2 км [на] поўдз[ень] Слонім[а]/ на захад ад гасцінца Слонім — Косава выкапаны супрацьтанкавы роў.[5]

№ 47(164) ад 31 траўня 1944 г.

Па дадзеных на 20.4 праціўнік распачаў будаўніцтва абарончаых збудаванняў палявога тыпу

# Супрацьтанкавы роў у Рышчыцах...

ўздоўж гасцінца Баранавічы — Слонім[6], праз населеныя пункты: Новая Мыш, Палонка, Якімавічы і далей на поўнач ад Слонім[а] па зах[однім] беразе р. Іса да Дзераўной і па ўсходнім беразе р. Шчара ўздоўж гасцінца да Казлоўшчыны.

…У Слонімскім і Н[ова]-Мышскім раёнах часткі здраднікаў (казакі) рабуюць насельніцтва і робяць расправы з сем'ямі партызанаў. Белаказакі групамі, ездзячы па вёсках, забіраюць у насельніцтва быдла і прадаюць яго на базары.

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш

*[1] СЁ. Іլжэпартызанскія групы на Слонімшчыне // Слонімскі край, 2019, № 2(36). Люты. С. 9.*

*[2] Безумоўна, гэта не была "фашысцкая" арганізацыя, тут бачым звычайны савецкі прапагандысцкі штамп. Яна не налічвала 2 тысячы чалавек, а, як мінімум, у 10 разоў менш. Больш падрабязна гл. у наступнай публікацыі: Ёрш С. Дакументы пра дзейнасць польскага падполля на Слонімшчыне // Слонімскі край, 2016, № 10. Лістапад. С. 10-12.*

*[3] Насамрэч, батальён Беларускай Краёвай Абароны складаўся з беларусаў. У Слоніме аднойчы здарылася масавая бойка паміж беларускімі і ўкраінскімі вайскоўцамі, якую давялося спыняць немцам. У тым жа дакуменце згадваецца, што па паказаннях палонных "у Слонім[е] дыслакуецца 115 паліцэйскі батальён з украінцаў".*

*[4] У дакуменце — Рышчыца.*

*[5] Яго засыпалі ў пасляваенны час, у пачатку Нагорнай вуліцы (цяпер — Анішчыка) — у 1960-я.*

*[6] Маецца на ўвазе так званы Напалеонаўскі тракт.*

З АРХІВАЎ

## Малюнак касцёла і кляштара



У зборах Беларускага дзяржаўнага архіву кіна-фотафонадакументаў ёсць выява малюнка касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і жаночага кляштара бернардынак у Слоніме. На жаль, няма звестак ні пра аўтара, ні пра час, калі ён быў выкананы. Найхутчэй гэта першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя.

●СЁ

СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

## Абнавіцца трэба

В[ёска] Какошчыцы Слонімскага пав[ету]. Прышлося мне пабываць у Слонімскім павеце. Ішоўшы дарогаю, я спаткаў чалавека з вёскі Какошчыцы. Мне зацікавілася ведаць, як жыве вясковая моладзь, я пачаў яго распытваць. Ох, — кажа — кепскія цяпер часіны настaлі.

У 1929 г. было ціха, быццам у тым лесе густым, што стаіць недалёка вёскі за вазярком у даліне.

Нядаўна ў нас залажылі беларускую бібліятэку, ладзілі спектаклі, вечарыны, складалі дэкларацыі на родную беларускую школу, на вечарынах спявалі беларускія песні і ўсе думалі, што наша Беларусь калі-небудзь стане вольнай. Але цяпер усё папсулася, пайшло ўсё да горшага. Дык час апамятацца і ізноў лепшае жыццё наладзіць.

Непакорны

*Шлях моладзі (Вільня), 1930, № 3. Сакавік.*



# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)



*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г., № 1(23), № 2(24), № 6(28), № 7(29), 2018 г., № 5(39), 2019 г.*

1930

Існуе памылковае меркаванне, што ў 1930-м у Слоніме была толькі адна футбольная каманда.[1] Насамрэч, як і ў папярэднія гады, іх было больш. Нягледзячы на знікненне каманды ŻKS (Żydowski Klub Sportowy) Słonim. Яўрэйскі клуб проста далучыўся да новай спартыўнай структуры, якая з'явілася ў нашым горадзе — Makabi Słonim. "Макабі" — гэта сусветны яўрэйскі спартыўны саюз. У той час актыўна ствараліся яго філіялы ў Заходняй Беларусі, якая была ў складзе Польшчы. 1-2 лістапада 1930 года ў Баранавічах прайшоў арганізацыйны з'езд "Макабі" Навагрудскага ваяводства. На ім былі прадстаўлены 48 клубаў, у тым ліку і са Слоніма.[2]

Makabi Słonim меў больш трывалую фінансавую базу (вядома, што быў арганізаваны збор грошай для клуба[3]), чым іншыя гарадскія яўрэйскія каманды. А гэта было важна, бо многія дружыны не мелі грошай на паездкі на матчы ў суседнія гарады.

Ёсць звесткі, што ў 1930 годзе дзве слонімскія каманды ўдзельнічалі ў першынстве Віленскай акругі (у Навагрудскім ваяводстве не было асобнага турніру) ў "клясе Б". У ёй існавалі тры групы — віленская, лідская і баранавіцкая. У апошнюю, нібыта, і ўваходзілі WKS Słonim і ŻKS Słonim.[4] У польскіх даследчыкаў дадзеныя на гэты конт няпэўныя, яны згадваюць пад пытаннем таксама дзве з трох баранавіцкія каманды і дзве навагрудскія. І гэта не дзіўна, паколькі спартыўная прэса мала ўвагі надавала матчам "клясы Б". У 1930-м у нашым горадзе не было карэспандэнта, які б дасылаў зацемкі пра матчы ў той жа варшаўскі "Спартыўны агляд" ("Przeglad sportowy"). Але чытачы былі: і ў Слоніме, і ў Жыровічах. Не шмат пісалі пра слонімскі футбол і мясцовыя выданні.

Першы футбольны паядынак сезону 1930 года, пра які нам вядома, адбыўся ў Слоніме ў

нядзелю, 25 траўня. У горадзе праходзіла вялікае спартыўнае свята і ў яго рамках правялі матч каманды Żyrowickiej Szkoły Rolniczej і WKS Słonim. Жыровіцкія футбалісты выйгралі з лікам 4:0. У пераможцаў найлепшымі на полі былі Даманьскі (Domański) і Мацешык (Macieszyk). Паглядзець на спаборніцтвы прыйшлі каля 1000 чалавек, многія з іх назіралі за футболам.[5]

Нейкі час у 1930-м паралельна выкарыстоўваліся дзве назвы яўрэйскай футбольнай каманды — ŻKS Słonim і Makabi Słonim. Менавіта так прадстаўлялі гасцей са Слоніма ў Навагрудку. 16 жніўня на стадыёне "Сокал" прайшоў матч двух каманд Makabi — навагрудскай і слонімскай. Судзіў пан Антоні Дрэлінг (Antoni Dreling). Гаспадары поля выйгралі з лікам 2:0.[6]

У тыя ж дні прайшоў футбольны матч у Слоніме. Гулялі каманды Makabi I-b і RKS. З дзіўнай назвы першай каманды можна зрабіць выснову, што ў яе было некалькі складаў. Што да другой, то ў папярэднія гады згадак пра яе не было. Верагодна, гэта быў Robotniczy Klub Sportowy (RKS). Матч, які судзіў пан Любоўскі (Lubowski), выйграў Makabi — 3:1. Найлепшымі ў больш тэхнічных пераможцаў былі Равіцкі II (Rawicki II) і Закрайскі II (Zakrajski II), у RKS — Свіцлыцкі ці Свелыцкі (Świclycki / Świelycki) і Буф (Buf).[7]

Як бачым, гэта былі таварыскія паядынкі. У нарысе пра гісторыю яўрэйскага спорту ў Слоніме адзначаецца, што такія гульні паміж слонімскімі камандамі праходзілі штотыдзень на гарнізонным стадыёне ў раёне цяперашняй вуліцы Чарняхоўскага. У іх удзельнічалі тры яўрэйскія каманды, адна вайсковая, каманда польскіх чыноўнікаў, каманда з Жыровічаў (памылкова сцвярджаецца, што гэта былі праваслаўныя семінарысты, насамрэч — навучэнцы сельскагаспадарчай школы). Прыходзіла 300-400 балельшчыкаў.[8]

●Сяргей Ёрш

*Працяг у наступных нумарах*

Спасылкі:

*[1] Будай А. Спорт в Западной Беларуси в начале XX века // Советская Белоруссия, 2000, 23 лістапада.*

*[2] Kronika żydowska // Przeglad sportowy, 1930, № 88, 1 лістапада.*

*[3] Żydowskie życie sportowe w Słonimie // http://shtetlroutes.eu/pl/zydowskie-zycie-sportowe-w-slonimie/*

*[4] https://pl.wikipedia.org/wiki/Okr%C4%99gowe_rozgrywki_w_pi%C5%82ce_no%C5%BCnej_woj._wile%C5%84skiego_(1930)*

*[5] Zawody sportowe w Słonimie // Życie Nowogródzkie, 1930, № 125, 31 траўня.*

*[6] Mecz piłki nożnej // Zycie Nowogródzkie, 1930, № 187, 14 жніўня; Wczorajszy mecz // Zycie Nowogródzkie, 1930, № 189, 17 жніўня.*

*[7] Ziemie Wschodnie // Przeglad sportowy, 1930, № 66, 16 жніўня.*

*[8] Żydowskie życie sportowe w Słonimie…*



*Слонімскія футбалісты міжваеннага часу*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# З фотаальбома Міколы Арочкі

Адным з самых знакамітых слонімцаў на ўсе будучыя стагоддзі застаецца доктар філалагічных навук, паэт, празаік, крытык, літаратуразнавец і перакладчык Мікола Арочка (1930 — 2013), які нарадзіўся ў вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне.

Арочка — адзін з таленавітых беларускіх літаратараў XX-XXI стагоддзяў. З-пад яго пяра выйшлі з друку найвыдатнейшыя гістарычныя паэмы “Курганне. Крэва” (1982), “Судны дзень Скарыны” (1990), “Каранацыя Міндоўга” (2003). Ён з’яўляецца аўтарам шматлікіх кніх паэзіі, сярод якіх — “Матчына жыта”, “Бяздонне”, “Падземныя замкі”, “Памяць зярнятаў” і іншыя, літаратуразнаўчых кніг пра Валянціна Таўлая, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, пра сучасную паэзію і ваенную прозу, кніг перакладаў. Да сённяшніх дзён на Слонімшчыне так і не ўшанавана памяць пра знакамітага і таленавітага земляка. На магіле ў вёсцы Вецявічы жонка пісьменніка Марыя Іванаўна і ўнук Валерый паставілі яму сціплы помнік. А год таму сваякі ўстанавілі мемарыяльную шыльду на хаце, дзе пісьменнік нарадзіўся і жыў. Вось і ўсё ўшанаванне. А ў 2020 годзе Міколу Арочку спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння.

Нядаўна жонка Міколы Арочкі Марыя Іванаўна Арочка перадала шмат рэдкіх фотаздымкаў пісьменніка з яго сямейнага альбома. Некаторыя з іх сёння публікуем.

●Сяргей Чыгрын



*Мікола Арочка, 1956 год*



*Мікола і Марыя Арочкі на Бяздонным возеры на Слонімшчыне*



*Маці Міколы Арочкі. Вёска Вецявічы, 1965 год*



*Мікола Арочка любіў фізічную працу*



*Надзея Пятроўна Арочка з сынамі Янам і Міколам. Вецявічы, 1938 г.*

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты



*Працяг, пачатак у № 5-6, 2019 г.*

У 76-м нумары газеты “Deutsche kriegszeitung von Baranowitschi” (“Нямецкая ваенная газета ў Баранавічах”) ад 20 верасня 1916 года была апублікаваная зацемка пра пажар гандлёвых радоў у Слоніме* (цяпер на іх месцы сквер на Першамайскай вуліцы). У ёй шмат дэталяў, цікавых назіранняў, параўнанняў.

Палова вялізнага слонімскага рынкавага памяшкання (Гандлёвых радоў) згарэла ў выніку пажару 13 верасня [1916-га]. Як і іншыя рынкавыя збудаванні падобнага тыпу, яно было цэнтрам гандлёвага жыцця горада. Ад іншых будынкаў гэтага прызначэння яно адрознівалася прыгажэйшым знешнім выглядам. Велізарная вольная прастора ва ўнутранай частцы і жаўтлявыя сцены звонку рабілі прыемнае ўражанне. Збудаванне выглядала значна лепш, чым базарныя “Халі”, паўсюль тут званыя “падваламі”, якія ўпрыгожваюць рынкі невялікіх польскіх і рускіх гарадкоў. Пад адным дахам простага прастакутнага збудавання размяшчалася 140 крамаў, у якіх дасведчаныя гандляры, у большасці сваёй габрэі, размяшчалі свае разнастайныя тавары.

Вонкавая сцяна была складзеная мулярамі, але ўнутры ўсё было з дрэва: дах, кроквы, столь, сцены, якія аддзяляюць адну краму ад іншай. Не дзіўна, што агонь, які ўзнік у адной з крамаў, хутка распаўсюдзіўся далей. Адусюль быў бачны дым, які падымаўся [над будынкам]. У спешцы і мітусні спрабавалі ўладальнікі крамаў, іх жонкі і дзеці выратаваць свае тавары — дарэмна. Хутчэй, чым чалавечыя цені, прасоўвалася полымя, пакуль не ўперлася ў процілеглую сцяну. Па іншы бок праходу мясцовыя гандляры загружалі свае тавары на вазы і хутка з’язджалі. З бліжэйшых дамоў таксама сталі вывозіць маёмасць. Як потым аказалася, гэтыя асцярогі былі марнымі.

Працы па тушэнні пажару пачаліся энергічна і адразу. Яны скончыліся паспяхова, бо агонь змог знішчыць толькі палову будынка. Нямецкія і аўстрыйскія салдаты разам з мясцовымі жыхарамі актыўна дапамагалі слонімскім пажарным падчас тушэння. Тушэнне суправаджалася гучнымі руска-польскімі крыкамі і воклічамі мясцовых людзей. Але галоўнае, што сумесная праца прывяла да жаданага выніку.

Падрыхтаваў
●Ігар Падгарадзецкі

**Пра гэты пажар “СК” ужо згадваў: 2016, № 4. Травень. С. 6; 2018, № 9. Верасень. С. 8-9.*

“Слонімскі край” — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на “СК” пры передруку абавязковая.